# Газета для вас






ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА–ПРУЖАНЫ

№ 25(236) 23 — 29 чэрвеня 2000 г. | ГРАМАДСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАЕ ВЫДАННЕ. ВЫХОДЗІЦЬ СА СТУДЗЕНЯ 1997 г. | Цана — 50 руб.

● 25 ЧЭРВЕНЯ — ДЗЕНЬ МОЛАДЗІ

# ТАК ПАТРЭБНА ПАДТРЫМКА!

*Безумоўна тое, што праблемы моладзі лепш за ўсё ведаюць самі маладыя. І проста цудоўна, калі гэтыя праблемы вырашаюць такія дасведчаныя і проста прыгожыя людзі, як загадчык аддзела па справах моладзі Бярозаўскага райвыканкама Вольга Аляксееўна ШЫП.*

*Аб тым, наколькі складанымі з'яўляюцца маладзёжныя справы, што хвалюе і радуе, падае надзею, Вольга Аляксееўна прыязна згадзілася расказаць чытачам "Газеты для вас".*

**— Вольга Аляксееўна, якія праблемы часцей за ўсё ўзнікаюць перад моладдзю Бярозаўшчыны?**

— Самыя складаныя — жыллёвае пытанне і пытанне працаўладкавання. Па апошніх дадзеных, 43% насельніцтва Бярозаўшчыны складае менавіта моладзь, таму, самі разумееце, павінен і размах вырашэння пытанняў быць адпаведным. Нягледзячы на льготнае крэдытаванне, сітуацыя застаецца няпростай, калі гаварыць пра жыллёвыя праблемы.

**— А што радуе?**

— Радуе, што сярод падлеткаў ужо трэці год не назіраецца росту правапарушэнняў. Прыемна, што на Бярозаўшчыне даволі высокі адукацыйны ўзровень: 55 працэнтаў выпускнікоў нашых сярэдніх школ паступаюць у ВНУ, тэхнікумы, каледжы, педагагічныя і медыцынскія вучылішчы.

У горадзе і раёне вельмі развітая інфраструктура, дзе кожны з маладых людзей мае магчымасць сябе праявіць. Гэта маладзёжны цэнтр, ДЮСЭЦ, безалкагольнае кафэ "Фламінга", два цэнтры пазашкольнай творчасці, 42 клубныя ўстановы, 54 аматарскія аб'яднанні, шэсць дзіцячых музычных школ (з трыма філіяламі), дзве школы народнай творчасці, 38 спартзалаў, два фізкультурна-аздараўленчыя цэнтры.

**— Жыццё, між тым, істотна мяняецца. Якія новыя павевы часу турбуюць, выклікаюць заклапочанасць?**

— Сумна, але значна ўзрасла колькасць разводаў. На 505 шлюбаў, якія мы мелі ў 1999 годзе, прыходзіцца 274 (54 працэнты) разводаў. Разводзяцца не толькі дваццацігадовыя, але і ва ўзроставым дыяпазоне ад 30 да 40 гадоў. Прыкладаем намаганні, каб зрабіць адпачынак маладых цвярозым і спартыўным. Тое ж самае безалкагольнае кафэ "Фламінга" стратнае, але райвыканкам узяў на сябе гэтую ношу. Згадзіцеся, што важна мець процівагу нарастаючаму п'янству. Сёння ж жадаючым выпіць ёсць дзе сабрацца, а тым, хто адмовіўся ад жыцця "пад мухай", не заўсёды і месца знаходзіцца.

**— Якія новаўвядзенні маюць так бы мовіць мясцовае паходжанне? У чым маеце перавагу перад іншымі раёнамі?**

— Мы адныя з першых у вобласці пачалі працаваць над інтэлектуальнай, навукова-тэхнічнай творчасцю маладых. Прайшлі семінары для маладых інжынераў, тэхнолагаў, энергетыкаў. Усё — у цесным узаемадзеянні з інавацыйнай асацыяцыяй "Інпрамтэх", якая ўжо каля дзесяці год працуе з маладымі рацыяналізатарамі і вынаходнікамі РБ. Шмат працуем над эканамічным выхаваннем моладзі.

Хачу павіншаваць з Днём моладзі калег і тых, хто душою малады. У моладзі энергіі шмат, але і падтрымка ёй патрэбна адпаведная...

*Гутарыў Аляксандр ГОРБАЧ.*

*(Працяг тэмы на 3-й стар.).*







*Фота IREX/ProMedia.*

## "Голас Пружаны"

**ПРУЖАНЫ.** Здесь появилась новая газета "Голас Пружаны". Выполнена она довольно-таки стильно. В отличие от местной "районки" желтеть через два дня не начинает. Можно с уверенностью сказать, что первый блин комом не получился и газета обязательно найдет своего читателя.

*Евгений ВАЛЮКЕВИЧ.*

## КРЭДЫТУ ДАЧАКАЛІСЯ

**БЯРОЗА.** На мінулым тыдні ў Савеце Міністраў Беларусі падпісаны дакументы, што дазваляюць дзяржаўнаму вытворчаму прадпрыемству "Бярозабудматэрыялы" закласці ў банк сваю маёмасць, каб атрымаць крэдыт у 6,7 млн. амерыканскіх долараў. Грошы будуць скарыстаны на рэканструкцыю-перааснашчэнне вытворчасці замежным тэхналагічным абсталяваннем. Першая частка крэдыту ў памеры 632 тыс. долараў пойдзе на закупку прэса і іншага абсталявання італьянскай вытворчасці (італьянцы з'яўляюцца аднымі з лідэраў у гэтай галіне) на лінію па вырабу абліцовачнай пліткі на заводзе мінерала-ватных вырабаў.

На працягу некалькіх гадоў прадпрыемства імкнулася атрымаць крэдыт, аднак гэтае жаданне не знаходзіла падтрымкі ў кіраўніцтва Беларусі. І вось, нарэшце, "зялёнае святло". У выніку рэканструкцыі плітка, што выпускаецца на камбінаце, зможа па якасці выйсці на сусветны ўзровень. Значна ўзрасце аб'ём вытворчасці.

*Сяржук РУСЕЦКІ.*

## Будем просвещаться?

**ПРУЖАНЫ.** 25—26 июня Пружанское отделение РОО "Правовая инициатива" проведет очередную серию семинаров по довольно злободневным вопросам, с которыми чаще всего сталкиваются наши граждане: "Возможность защиты от произвола чиновника", "Судебно-правовая система и судебная защита прав человека", "Местное самоуправление и его роль в правовом государстве". В семинарах примут участие активисты местных молодежных организаций "Гражданский форум", Белорусская Ассоциация молодых политиков, а также все заинтересованные в повышении своей правовой культуры.

Проект, рассчитанный на целую серию образовательных программ, осуществляется при поддержке Комиссии по развитию демократии посольства Соединенных Штатов Америки в Республике Беларусь.

*Влад ЭЛОГПИЕВСКИЙ.*

## Першая фальшыўка

**БАРАНАВІЧЫ.** У грашовай масе, што здала ў мясцовае аддзяленне "Белпрамбудбанка" адно з гандлёвых прадпрыемстваў горада, выяўлена падробленая купюра вартасцю пяць мільёнаў беларускіх рублёў.

Такі выпадак у горадзе рэгіструецца ўпершыню. Звычайна стараюцца падрабіць амерыканскія долары.

*Алесь САШЫН.*

Юрыдическая консультация молодежной организации "Гражданский форум" (г. Пружаны) проводит консультации для студентов по правовым вопросам. Время консультаций каждый день с 18.00 до 19.00 по телефону 2-00-40.

## Пасмяёмся разам з...

*рабочай эксперыментальнай базы "Майск" (Івацэвіцкі раён) Галінай Рэцкай.*

Вясна. Паводка. Усё затапіла, на нейкім астраўку сядзяць два мужыкі, выпіваюць. Раптам адзін з іх штурхае другога:

— Ты глянь, Мікола, шапка Пятра па цячэнню плыве!

— Э-эх! — уздыхае Мікола. — Добры быў мужык, памянём яго.

Выпілі. Раптам адзін зноў кажа:

— Мікола, ты падзівіся! Пятра шапка ўжо супраць цячэння плыве!

— Э-эх! Давай яшчэ раз памянём Пятра.

Выпілі. Праз колькі хвілін бачаць мужыкі — Пятра шапка зноў па цячэнню плыве.

— Ну і дзіва! — аж раты паразявілі.



Тут над вадой шапка падымаецца, паказваецца Пётр і пытае:

— Чаго раты паразяўлялі?

— Пётр, дык ты ж гэта, здаецца, таго...

— Самі вы "таго"! Паводка паводкай, а араць трэба!

## Летнія правакацыі надвор'я

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Падобна на тое, што мелі рацыю тыя з сялян, хто асабліва і не разлічваў на гэты год, маючы на ўвазе каляндарныя тры нулі і высакосны год. Зноў у раёне напомнілі пра сябе замаразкі. У ноч з 18 на 19 чэрвеня тэмпература знізілася да 0— -2С°. Гэтага аказалася дастаткова, каб пацярпелі сельскагаспадарчыя культуры, размешчаныя на тарфяніках. Проста жахліва выглядае бульба, якая ўжо дзе-нідзе зацвітала, на якую асабліва разлічвай селянін, які і без таго "тяпнул" гора ў гэты вельмі ўжо неспрыяльны год.

Высушыла. Памарозіла. Што далей?

*Аляксандр ГОРБАЧ.*

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Новае крымінальнае заканадаўства

***Новыя Крымінальны, Крымінальна-працэсуальны і Крымінальна-выканаўчы кодэксы Рэспублікі Беларусь будуць уведзены ў дзеянне з 1 студзеня 2001 года.***

Такое рашэнне было прынята на нарадзе кіраўнікоў зацікаўленых структур, якое прайшло пад старшынствам прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Раней планавалася, што кодэксы ўступяць у дзеянне з 1 ліпеня 2000 года. Змяшчэнне тэрмінаў звязана з негатоўнасцю некаторых суб'ектаў да выканання норм новага крымінальнага заканадаўства.

## Адпачынак падаражэе з ліпеня

***З 1 ліпеня кошт пуцёвак у санаторыі, прафілакторыі і дамы адпачынку павялічыцца ў сярэднім на 20 працэнтаў. Гэта рашэнне было прынята ўрадам у сувязі з ростам цэн на прадукты харчавання і энерганосьбіты.***

Такім чынам, на працягу III квартала рэальны кошт пуцёвак у здраўніцы Беларусі з улікам іх профілю, месца знаходжання, а таксама ўзроўню абслугоўвання будзе вагацца ад 100 да 200 тыс., а ў санаторыі, прафілакторыі і дамы адпачынку Украіны і Расіі — ад 130 да 250 тыс. рублёў. Пры гэтым парадак частковай аплаты непасрэдна для грамадзян нашай краіны, якія будуць накіроўвацца на адпачынак і аздараўленне праз структуры Рэспубліканскага цэнтра, вырашана захаваць ранейшы: у залежнасці ад узроўню даходаў пуцёўка для іх абыдзецца ў 10—30 працэнтаў ад сабекошту.

## Усебеларускі з'езд перанесены на 29 ліпеня

***10 чэрвеня адбылося чарговае паседжанне аргкамітэта па падрыхтоўцы Усебеларускага з'езда.***

У мэтах забеспячэння больш грунтоўнай падрыхтоўкі Усебеларускага з'езда прынята рашэнне прызначыць яго адкрыццё на 29 ліпеня 2000 года. Таксама з прапановы Віцебскага абласнога аргкамітэта ў выключных выпадках (калі выканаўчыя органы перашкаджаюць правядзенню схода грамадзян, або калі ў сельскай мясцовасці сход немагчыма правесці з-за вялікай раздробленасці населеных пунктаў) дазволена вылучаць дэлегатаў шляхам збору подпісаў пры ўмове абавязковага ўзгаднення з рабочай групай аргкамітэта Усебеларускага з'езда і тэрытарыяльным аргкамітэтам.

Таксама, каб больш дакладна акрэсліць мэту Усебеларускага з'езда, у яго назву дададзены словы "за незалежнасць". Кіраўніцтва аргкамітэта звярнулася да грамадскіх арганізацый, палітычных партый, прафесійных і творчых саюзаў з заклікам прыняць як мага актыўнейшы ўдзел у вылучэнні дэлегатаў і абмеркаванні галоўнага дакумента Усебеларускага з'езда — Акта Незалежнасці Беларусі, праект якога ўжо надрукаваны ў шэрагу перыядычных выданняў.

**Кантактны тэлефон сакратарыята Усебеларускага з'езда — (017) 2236529. Адрас для карэспандэнцыі — 220065, Мінск, а/с 297.**

## Предложение о переносе выборов на более поздний срок

***Около четырех часов длилась 20 июня встреча парламентской "тройки", которая находится в Минске с визитом, с представителями Консультативного совета оппозиционных политических партий и членами Президиума Верховного Совета Беларуси 13-го созыва. Встреча проходила за закрытыми дверями.***

Руководитель рабочей группы по Беларуси Парламентской ассамблеи ОБСЕ Адриан Северин, как сообщил БелаПАН один из участников встречи, подчеркнул, что международные организации постоянно помнят о четырех условиях, без выполнения которых белорусскими властями выборы не могут быть признаны демократическими. А. Северин также отметил, что международное сообщество не будет оказывать никакого давления на оппозицию с целью подтолкнуть ее к участию в парламентских выборах. Представители оппозиции — Анатолий Лебедько, Винцук Вечорка, Владимир Нистюк и другие — в ходе беседы говорили о том, что оппозиция не боится участвовать в выборах, она просто не хочет участвовать в избирательном фарсе. Поскольку на сегодняшний день, по мнению представителей оппозиции, ни одно из четырех условий, предложенных европейскими организациями, не реализовано, некоторые участники предлагали отложить выборы на более поздний срок.

*(БелаПАН).*

ФОТАСЮЖЭТ



## ГАРАДЖАНЕ СТАЛІ ЗЕМЛЯРОБАМІ

У суботу правінцыяльныя гарады нібыта выміраюць: бязлюдна, толькі зрэдку шэндае моладзь ды рэжуць у карты абібокі. Увесь люд у полі. Гараджане сталі земляробамі — полюць уласныя градкі, збіраюць клубніцы і чарэшню, цягаюць вёдры вады для паліву. У рабоце і старыя, і малыя.

Эх, жыццё. Жыццё не манка. Забяры ў беларуса зарплату, пенсію, усё роўна, сціснуўшы зубы, будзе маўчаць. Забяры апошні кавалачак зямлі — пойдзе з торбай па свету. І забудзе пра Радзіму, свабоду, годнасць. Барані Божа ад такой будучыні. Але думкі чамусьці ўпарта лезуць у галаву, гледзячы, як гараджанін пацее на некалькіх сотках матулі-зямлі, возіць сюды ваду ў вёдрах ды бутэльках!

*Тэкст і фота Аляксея ГАНЧУКА.*

КРЫМІНАЛ

## І днём, і ноччу...

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Калі перавядуцца зладзеі, невядома. Вядома толькі, што гэтая катэгорыя людзей выходзіць на "паляванне" ў любы час сутак. У Косаве, напрыклад, аматары лёгкай нажывы днём залезлі ў кватэру мясцовай жыхаркі, якая жыве ў трохпавярховым доме. Забралі невялікі металічны сейф, спіртное з халадзільніка і зніклі. У лесе за Косавам разбілі той сейф, забралі 200 долараў ЗША, залатыя вырабы. Дакументы і розныя паперы, што знаходзіліся там, спалілі.

На спадарожнай машыне падаліся ў Івацэвічы, потым — у Целяханы. У пасёлку наладзілі гулянку, у ходзе якой узнікла бойка. Так зладзеі трапілі ў рукі міліцыі. Вось іх празвішчы: Н. В. Янчэўскі і Н. Н. Байбак — жыхары Івацэвічаў, нідзе не працавалі, раней асуджаныя, нядаўна вярнуліся з месцаў зняволення. Разам з імі была А. І Марозава — жанчына без пэўнага месца жыхарства.

Па факце крадзяжу ўзбуджана крымінальная справа. Вядзецца следства. Зладзеі ўзяты пад варту.

А вось другая група зладзеяў дзейнічала пад покрывам ночы. Узламаўшы ўнутраныя замкі гаража па вуліцы Горкага ў Івацэвічах, угналі іншамарку. Зараз ідзе пошук тых "аўтааматараў". Але гаспадар іншамаркі спадзяецца, што, можа быць, хтосьці з жыхароў райцэнтра, ведаючы пра гэты крадзеж, за высокую ўзнагароду паведаміць яму што-колечы пра тых злачынцаў (тэлефон у Івацэвічах 2-37-07). Ананімнасць паведамлення гаспадар іншамаркі гарантуе.

Дарэчы, ёсць пэўныя меркаванні, што да крадзяжу гэтай легкавушкі маюць дачыненне мясцовыя жыхары.

*Аляксандр ГЛУШЭНЯ,*
*начальнік аддзела крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

## Пляменнік — на дзядзьку

**БАРАНАВІЧЫ.** З цяжкімі цялеснымі пашкоджаннямі брыгада хуткай дапамогі прывезла мужчыну 1948 года нараджэння ў гарадскую бальніцу. Не прыходзячы ў прытомнасць, пацыент памёр.

Так трагічна закончыўся яго паход у госці да брата, дзе смяротныя траўмы дзядзьку нанёс 18-гадовы пляменнік. У дачыненні да маладога чалавеканенавісніка ўзбуджана крымінальная справа.

*Алесь САШЫН.*

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

## Некалькі слоў пра аліменты

***— "Газета для вас"? Надрукуйце, калі ласка, падрабязную інфармацыю аб тым, як выплачваюцца (ці ўвогуле не выплачваюцца) аліменты ў тым выпадку, калі дзеці засталіся пасля разводу на ўтрыманні і бацькі, і маці (у маім выпадку адно дзіця жыве з маім былым мужам, двое — са мной). Думаю, гэтая тэма цікавіць не адну мяне.***

*Наталля ГАЎРЫЛЕНЯ.*

*г. Баранавічы.*

Дакладны адказ на пытанне дае Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб шлюбе і сям'і.

— Аліменты выплачваюцца як у фіксаванай суме, так і ў працэнтным вылічэнні ад даходаў бацькоў за месяц.

Звычайна яны выплачваюцца ў працэнтным вылічэнні ў наступных памерах: на адно дзіця — 25 працэнтаў, на дваіх — 33 працэнты, на трох і болей дзетак — 50 працэнтаў ад месячнага даходу. (Месячны даход — гэта не толькі заработная плата за месяц, але і розныя іншыя даходы плацельшчыка аліментаў — аўтарскі ганарар або банкаўскія працэнты і г. д.)

Так аліменты вылічваюцца, калі дзіця або некалькі дзяцей знаходзіліся на ўтрыманні аднаго з бацькоў.

У тым выпадку, калі ў сям'і некалькі дзетак, якія пасля разводу жывуць з рознымі бацькамі, то прымяняецца іншы парадак вылічэння памеру аліментаў — ён вылічваецца не ў працэнтных адносінах ад месячнага даходу, а ў фіксаванай суме, якую мусіць выплаціць больш забяспечаны з разведзеных.

Калі муж ці жонка маюць непастаянны заробак і сума аліментаў становіцца малой і нерэгулярнай, калі плацельшчык аліментаў атрымлівае частку даходу ў натуры (напрыклад, фермер), суд устанаўлівае фіксаваны памер аліментаў. Ён не залежыць ад уласнага заробку, выплачваецца кожны месяц і павялічваецца разам з павелічэннем мінімальнай зарплаты.

ВАША ПІСЬМО

## Прыміце маю падзяку

Шаноўная рэдакцыя "Газеты для вас"! Звяртаюся да вас з просьбай надрукаваць маё пісьмо з падзякай усім, хто дапамог рашыць важную для мяне праблему.

У мяне быў гараж, пабудаваны некалі ўстановай УЖ 15/5. Я звярнулася туды з просьбай, каб наладзіць адрамантаваць пабудову, бо Брэсцкае аддзяленне Беларускай чыгункі мне выдзеліла аўтамабіль "Ака" і яго трэба было кудысьці паставіць. Начальнік установы А. М. Багдусевіч выслухаў мяне і згадзіўся дапамагчы. Спачатку яго работнікі перасыпалі гараж, а потым накрылі яго шыферам. Я ездзіла ў Бярозу, каб зарэгістраваць машыну, а вяртаюся дадому і бачу: у маім гаражы новы дах, а старыя лісты шыферу ляжаць каля яго акуратна складзеныя.

Хачу выказаць шчырую і сардэчную падзяку начальніку ўстановы УЖ 15/5 Анатолю Міхайлавічу Багдусевічу за чуласць і спагадлівасць. Дзякуй Вам, добры чалавек!

*Ганна ЁВІК,*
*інвалід працы І групы.*

*г. Івацэвічы.*

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

## ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 21.06.2000 г. (у руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 1200—3000 | 1500—3000 | 1200—2800 | 1300—3000 |
| Сала салёнае | 1500 | 1500 | 1200 | 1250 |
| Алей (1 л) | 630—850 | 600—900 | 650—800 | 660—750 |
| Яйкі | 450—500 | 400—500 | 450—500 | 400—460 |
| Малако (3 л) | 360 | 360 | 360 | 300 |
| Тварог | 350—450 | 350—400 | 400—500 | 360 |
| Масла сметанк. | 1500 | 1800 | 1500 | 1600 |
| Цыбуля (1 пуч.) | 80—100 | 80—100 | 80—100 | 80—100 |
| Кроп (1 пучок) | 50 | 50—80 | 50 | 50-60 |
| Капуста св. | 280—300 | 350—370 | 300 | 300 |
| Клубніцы | 900 | 900—1000 | 900 | 900 |
| Агуркі свеж. | 350 | 350—400 | 350—400 | 350 |
| Яблыкі | 450—950 | 360—750 | 380—480 | 400—550 |
| Памідоры | 900 | 900 | 900 | 900 |
| Вінаград | 1800—2600 | 2000 | 2200 | 2500 |
| Грэцкія арэхі | 950 | 850—950 | 850 | 930 |
| Часнок | 1000 | 1100 | 1100 | 1000 |
| Лімоны | 900 | 900 | 990 | 1000 |
| Апельсіны | 650—700 | 700—750 | 790 | 730 |
| Бананы | 650—800 | 600—800 | 790 | 700—800 |
| Мандарыны | 1000 | 900 | 1000 | 1000 |
| Грэчка | 630—650 | 600 | 650 | 650—660 |
| Макар. вырабы | 300—430 | 300—400 | 280—320 | 270—300 |
| Рыс | 450 | 420 | 400—430 | 470—500 |
| Манныя крупы | 400 | 350 | 350 | 360 |
| Проса | 240—300 | 300 | 230 | 300 |
| Цукар | 320 | 320 | 320 | 320 |
| Мёд | 3.000 | 3.000 | 3.000 | 3.000 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 980 | 1000 | 980 | 1000 | 980 | 1000 | 980 | 1000 |
| 1 дойчмарка | 490 | 500 | 490 | 500 | 490 | 500 | 490 | 500 |
| 1 рубель Расіі | 33 | 34 | 33 | 34 | 33 | 34 | 32 | 33 |

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# 7"А" будзе, відаць, рускамоўным

"Газета для вас" паведамляла аб тым, як з пэўнымі парушэннямі спрабавалі перавесці 6 "А" клас СШ № 1 г. Белаазёрска на расейскую мову навучання. Змаганне спадарыні Ірыны Драчэнкі — маці адной з вучаніцаў — за тое, каб клас застаўся беларускім (і артыкул у нашай газеце) далі пэўны вынік і спадзяванні на поспех. Раённы аддзел адукацыі вырашыў, што трэба атрымаць індывідуальныя заявы ад усіх бацькоў вучняў. Спадарыня Ірына і старшыня Белаазёрскай суполкі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сп. Мікола Валошчык пачалі размовы з кожным з бацькоў паасобку (бо на сход у школу тыя не прыходзілі). І тут яны зрабілі, так бы мовіць, ракавую памылку. Бо не прапанoўвалі бацькам тут жа пры іх напісаць адпаведную заяву. На словах многія з бацькоў як бы пагаджаліся з довадамі нечаканых наведвальнікаў. Спадарыня Ірына спадзявалася, што, па яе падліках, павінна была атрымацца большасць за беларускасць. У рэальнасці ж, калі класная кіраўніца сабрала заявы, то да трох бацькоў, што былі, дабавілася толькі адна заява. Яшчэ некалькі адмовіліся пісаць якія-небудзь заявы. Астатнія — за тое, каб клас стаў рускамоўным. Усё, як гаворыцца, у рэчышчы тэндэнцыі, што ідзе па ўсёй краіне.

Безумоўна, няма прамой сувязі паміж дзяржаўнаю моваю і моваю навучання і тоўстаю-тоўстаю каўбасою, якую кожны хоча мець на сваім стале (нашым узроўнем жыцця). Але ў ніводнай краіне, што жывуць заможна і цывілізавана, не размаўляюць і не вучацца на чужой мове. Бо сувязь паміж моваю, культураю і дабрабытам усё ж існуе. У свой час і расійская эліта лічыла больш прэстыжным размаўляць па-французску, а большасць чэхаў загаварылі па-нямецку. Ды і мы, ці сталі жыць лепей за тыя 5 гадоў пасля рэферэндуму 1995 г., як пачалі вынішчаць свае сімвалы і мову? Ці многія бачаць сёння добрыя перспектывы для сябе і сваіх дзяцей?

Дык давайце ж помніць, што мы — беларусы. Ды шанаваць сваіх продкаў, гісторыю і мову.

*Сяржук РУСЕЦКІ.*
*г. Белаазёрск.*

КОНКУРСЫ

"САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"

"СЯБРЫ ГАРМОНІІ І ШТАНГІ"



*СВЕТЛАНА, по гороскопу — Рыбы. Люблю слушать современную музыку. Нравятся группы "Руки вверх", "Вирус". Мое свободное время — в кругу друзей. Нравятся культурные, общительные, с хорошим чувством юмора парни. Очень хорошо, если он будет зеленоглазым, загорелым, высокого роста.*



*САША, па гараскопу Цялец. Вольны час не ўяўляю без піва і сяброў. Музыку слухаю розную, а больш за ўсё падабаецца такі накірунак, як тэхна-рэйв. Кумір — Марк дэ Коскас.*

*Лічу, што непрыгожых дзяўчат не бывае. Перавагу аддаю тым, у каго карыя вочы.*

ЗДАРЭННІ

# Загінуў матацыкліст

17 чэрвеня чарговае здарэнне літаральна ўзрушыла ўсіх жыхароў вёскі Быцень Івацэвіцкага раёна. Загінуў малады, здаровы мужчына, якому яшчэ не было і 30 гадоў. Гэта Вячаслаў Дабрынін. Едучы на матацыкле па вуліцы Козінскай, на закругленні яе не справіўся з кіраваннем і ўдарыўся ў бятонную агароджу. Смерць наступіла адразу.

У якім стане быў матацыкліст, разбіраецца міліцыя. Але зразумела адно: з-за ўласнай неасцярожнасці наступіла расплата.

*Канстанцін ДЗЯМЧУК.*

БЛАГОТВОРИТЕЛЬНОСТЬ

# Ценный подарок

**Барановичский** станкостроительный завод приобрел и передал в пользование ТМО-1 (территориальное медицинское объединение-1) японское оборудование для проведения операций на желудке и 12-перстной кишке. Кроме того, на деньги предприятия доукомплектован аппарат для трансуретральной резекции на мочевыводящих путях, который бездействовал в течение шести лет. Стоимость закупленного оборудования — 58 тысяч долларов. По словам главврача ТМО-1 Геннадия Ивановича Лобковича, эти деньги потрачены не зря. При помощи вышеназванной аппаратуры врачи спасут не одну человеческую жизнь.

*Галина ЗАГАДСКАЯ.*

ВЫБОРЫ

# МИХАИЛ ЧИГИРЬ — ЕДИНЫЙ ЛИДЕР

Президентские выборы в Беларуси состоятся в 2001 году. Но вот уже второй год в республике идет напряженная и даже ожесточенная борьба за этот пост. Сегодня в борьбе за пост главы государства определились два соперника: А. Лукашенко и М. Чигирь. В общем-то А. Лукашенко никогда не скрывал, что намерен сохранить за собой пост президента. Он провозгласил некогда: "Нынешний президент — это всерьез и надолго!.. Помните, что, как там в народе говорят, власть — от Бога. А Бога надо уважать!" (из выступления А.Лукашенко на сессии Брестского областного Совета 14 декабря 1994 г.).

М. Чигиря же совсем недавно кандидатом в президенты выдвинул политсовет Объединенной гражданской партии и предложил всем демократическим силам считать его единственным кандидатом от оппозиции. Активисты из ОГП предполагают, что кампания Чигиря создаст ему в глазах избирателей образ невинной ЖЕРТВЫ и напомнит ситуацию, которая была на первых президентских выборах в 1994 году, когда в такой же роли оказался Александр Лукашенко. Именно в психологическом статусе жертвы он провел тогда основную часть своей предвыборной кампании и во многом благодаря этому статусу победил.

Однако нынешняя и прежняя ситуации имеют принципиальное различие. А. Лукашенко снискал безмерную любовь и обожание за то, что хотел разгромить коррупционеров, отобрать у них награбленное и поделить среди ограбленных. М.Чигирь ни слова не говорит о коррупции в команде Лукашенко и республике. Единственный аргумент, более или менее понятный избирателям, заключается в том, что при Чигире средняя зарплата составляла 100 долларов, без Чигиря уменьшилась в несколько раз. Если М. Чигирь станет президентом, то он вернет достойную зарплату. Сторонники Чигиря, однако, не учитывают, что аргумент про сто долларов доходит только до тех, кто понимает, что такое доллар. Сколько таких в республике? Исследования менталитета белорусов свидетельствуют, что они скорее пойдут за тем, кто пообещает земной рай, а не какую-то сотню долларов.

*Владимир ПОДГОЛ, доцент, кандидат философских наук. (БелаПАН).*

ГОЛАС НАРОДА

# У якім узросце заканчваецца маладосць?

***Оскар Уайльд у сваім знакамітым рамане "Партрэт Дарыяна Грэя" вуснамі аднаго з герояў зрабіў цікавую заўвагу: " Бяда не ў тым, што мы старэем, бяда ў тым, што душой мы застаёмся маладымі".***

***А ў якім узросце заканчваецца фізічная маладосць, як нашы сугрworld?***




**Віка, выпускніца школы:** Усе кажуць, што да 30 год чалавек малады, але, на мой погляд, маладосць заканчваецца тады, калі ўжо пачынаеш сядзець дома, на дыскатэкі не ходзіш, нічога цябе не цікавіць. Вось я зараз сама дома сяджу...



**Аляксей Іосіфавіч, пенсіянер:** Але я малады! І фізічна моцны. У мяне ўсё, так бы мовіць, працуе. Я зараз і танцаваў бы і скакаў бы лепш за маладых. Каб толькі быў час. Розных клопатаў шмат, а таньчыць няма калі, а то б я...



**Раіса Рыгораўна, служачая:** Маладосць ніколі не заканчваецца, калі ты душою малады. Да 30 год проста не разумееш таго, што ты фізічна малады, а пасля 30 год можа і здароўе не тое, але ж бачацца іншыя перспектывы, якія цябе натхняюць, нібы маладога.



**Людміла Аляксандраўна, журналіст:** Духоўная маладосць не заканчваецца, працягваецца. Тут шмат значаць нашы дзеці. Усе іх узроставыя праблемы, радасці ці няўдачы ўспрымаем разам з імі, стараемся жыць іх жыццём па-маладому. На дыскатэках я не танцую, але як сябе павадзіць молада ведаю. Там жа мая дачка адпачывае!



**Таццяна, прадавец:** Калі ў маёй душы парадак, добрая энергія кіпіць, есць узаемаразуменне з дачкой, сябрамі, калегамі, то адчуваю сябе маладой. Наша маладосць працягваецца ў нашых дзецях. Калі душою малады, і нібы на крылах лётаеш, то фізічны стан, узрост і здароўе не такія і важныя.

*У народ хадзілі Валянціна АМЕЛЬЧАНКА, Аляксандр ГОРБАЧ (фота).*



# ЁСЦЬ НА ПАЛЕССІ КАНАЛ...

**(Працяг. Пачатак у №№ 21, 22, 23, 24).**

Цікавы такі факт. Народныя апалчэнцы стварылі сваю невялікую рэспубліку, куды ўвайшлі вёскі Краі, Гутка і Рэчкі. Існавалі мясцовыя органы савецкай улады са сваімі кіраўнікамі і ўзброеным атрадам, у якім налічвалася сто байцоў. Камандаваў атрадам Мікалай Рыгоравіч Мялік (родам з вёскі Рэчкі).

Вось два дакументы тых гадоў. З данясення ад 27 мая 1919 года: "**11 гадзін. Звесткі ад партызанаў: праціўнік наступае каля Агінскага канала, заняў вёскі Гутка і Краі, ідзе на Рэчкі, Рудню, Пучыны.**

**17 гадзін 34 мін. Партызаны ўступілі ў бой з палякамі каля Агінскага канала, палякаў да 150 чалавек. Праціўнік спаліў вёскі Краі і Гутка. У партызанаў ёсць параненыя. Прышліце да мяне адну роту з кулямётамі.**

**Пам. камандзіра 66 СП Харэўскі, камісар Ф. Баклееў".**

**"28.5.1919 г. У 23 гадз. 27 мая па данясенні партызан (атрада М. Р. Мяліка) — праціўнік адхлынуў на Целяханы.**

**Харэўскі, Баклееў".**

18 сакавіка 1921 года была заключана мірная дамова паміж Польшчай і Расійскай Федэрацыяй, па якой Заходняя Беларусь аказалася пад уладаю польскіх паноў. Яны пераварылі яе ў сваю калонію і называлі "крэсамі ўсходнімі..." Тут яны панавалі да 17 верасня 1939 года.

За гады ваенных дзеянняў збудаванні на канале былі разбураны. Палякі аднавілі канал, і ў 1926 годзе ён зноў уступіў у строй, стаў ранейшай жывой воднай артэрыяй, па якой пайшлі баржы, параходы, пачалі зноў сплаўляць лес.

**5.**

— Я добра помню Агінскі канал 30-х гадоў, — расказвае Аляксандр Раманавіч Віктаровіч, жыхар г. п. Целяханы. — Шырокі, да трыццаці метраў. Вада чыстая. На канале і каля яго заўсёды быў парадак. Ахоўвалі канал палякі, са стрэльбамі. Праз дарогу насупраць старога праўлення калгаса "Расія" ў Целяханах стаяў домік. Тут было пастаяннае месца знаходжання вартаўнікоў. А насупраць праз канал, дзе зараз размешчана Целяханская сярэдняя школа, былі два дамы. Тут знаходзілася ўпраўленне канала: кіраўнік яго, два інжынеры, два тэхнікі... Усяго дзесяць чалавек. Назіраў я, як хадзілі пасажырскія параходы, як цягалі баржы, як плытагоны сплаўлялі лес. Праўда, на самім канале я не працаваў, у мяне была другая работа...

— А мой бацька, Рыгор Сямёнавіч Халадовіч, працаваў на Агінскім канале, — гаворыць жыхарка Целяхан Варвара Рыгораўна Жэрка. — Ён быў пільшчыкам. Разам са сваім напарнікам ён распілоўваў бярвенні на дошкі, брусы для канала. На так званыя козлы падымалі і клалі бервяно. Адзін пільшчык стаяў на козлах, другі — на зямлі і спецыяльнай доўгай пілой распілоўвалі тыя бярвенні. Цяжкая гэта была праца. Помню, як адразу вярнулася сям'я з бежанцаў, то я і брат Сцяпан у азярцы ля канала хусткай лавілі рыбу. Канал тады яшчэ быў разбураны...



*Уваход у шлюз канала (30-я гады).*

**6.**

Аб працы плытагонаў успамінае жыхар вёскі Выганашчы Рыгор Ігнатавіч Палуяновіч:

— Ага. Ета праўда. Бурлачыў. На пасы хадзіў, лічы, да самай вайны. Лінку цераз плячо і пайшоў памаленьку, і пайшоў берагам. Тады гэтых вунь альховін не було, берагі булі чыстыя. А лес ішоў у асноўным з Замужанкі. Мы і цягнулі яго ажно да Целяхан. Там нашы пасы пераймалі і валаклі ў Пінск ужо іншыя бурлакі. Праўда, плацілі замала, лічы, што лямку цягнуў чалавек дармова. Але дзе вышэй? Хоць які ды заробак буў. А ўзімку на невад хадзіў. Наймаўся да купца Гольдзіна...

Як патлумачыў А. Р. Віктаровіч, плыт па каналу цягнулі за тоўстую вяроўку, а ўжо на беразе канала да яе мацавалі тонкія вяроўкі (іх называлі лінкамі). У кожнага бурлака была свая лінка, за якую і цягнуў той плыт.

**7.**

Як расказваюць старажылы, плытагонамі на канале працавала многа матыльянцаў, гэта значыць жыхароў вёскі Моталь Іванаўскага раёна. З дапамогай работнікаў Мотальскага музея ўдалося адшукаць двух чалавек, якія працавалі плытагонамі на Агінскім канале і сустрэцца з імі. Гэтыя людзі ўжо састарэлага ўзросту, але пра сваю былую працу ўспамінаюць з ахвотай.

Л. П. Паліўка — карэнны жыхар вёскі Моталь. Тут жылі яго бацькі і дзяды. Тут і ён застаўся назаўсёды.

— У 1936 годзе, калі мне было 16 гадоў, — расказвае Лявон Пятровіч, — я пачаў хадзіць на балі. Так па-мясцоваму называлі лесасплаў. Бацька ўзяў мяне з сабой. А ён, дарэчы, яшчэ пры цару Мікалаю сплаўляў лес. Усе гады працаваў на Агінскім канале. Яшчэ пры Польшчы я тры гады цягаў плыты разам з бацькам...

У чым жа сакрэт працы плытагона? Лявон Пятровіч прызнаецца, што сакрэту — ніякага. Проста патрэбны ўмельства і сіла.

Пачыналася работа плытагона Паліўкі паблізу вёсак Залужжа і Цыганы (цяпер Ляхавіцкі раён). Везлі туды матыльянцаў спярша на павозках, потым на лодках. На беразе Шчары з нарыхтаваных бярвенняў вязалі плыты і па рацэ сплаўлялі да пачатку Агінскага канала, потым да дзесятага шлюза. Праз шлюз да Выганашчанскага возера і цераз яго і ў канал. Цягнулі тыя плыты па каналу да Ясельды. Менавіта цягнулі, хаця і па цячэнні ад шлюза да шлюза. Напярэдадні да плыта прымацоўвалі тоўстую моцную вяроўку, а на канцы яе прывязвалі тонкія вяроўкі (лінкі). Аднак перш чым чапляць лінкі на плечы, апранаў кожны плытагон скорач. Гэта няхітрая адзежына, якая засцерагала плечы і грудзі ад мазалёў ці ад пашкоджання скуры. Трое моцных мужчын з лінкамі праз плечы ішлі па бічоўніку (беразе канала) толькі з аднаго боку і цягнулі за вадой плыт. Чацвёрты мужчына ішоў побач з пярэдняй часткай плыта з багром і такім чынам накіроўваў яго, каб не чапляўся і не ўпіраўся ў бераг.

Лявон Пятровіч зазначыў, што многія матыльянцы, нават цэлыя пакаленні, хадзілі на балі. У ліку іх Дзям'ян Міхові́ч, Купрыян Малеч, Міхаіл Сяргейчык... Праўда, у жывых сёння засталіся адзінкі.

— Колькі ж Вы тады зараблялі? — пытаюся ў Лявона Пятровіча.

— За днёўку давалі пяць злотых, — адказаў Паліўка.

— За тыя злотыя, за дзённы заробак, што Вы маглі купіць?

— Ну, скажам, тры пуды хлеба, ці два з паловай кілаграмы сала, або дзве з паловай бутэлькі гарэлкі... Але ж і праца была цяжкая, — зрабіў вывад Лявон Пятровіч.



*Выгляд на канал з берага (30-я гады).*

**8.**

С. А. Філіновіч — таксама жыхар Моталя. Працаваў на лесасплаве ўжо пры савецкай уладзе. Ганяў плыты з тых жа мясцін, што і Паліўка. Сцяпан Арцёмавіч помніць усе падрабязнасці працы плытагона.

Перш чым цягнуць плыт, трэба яго зрабіць. Бярвенні для сплаву (а гэта ў большасці альха і бяроза) ляжалі ўжо на беразе Шчары, нарыхтаваныя і прывезеныя сюды іншымі рабочымі.

Бярвенні скочвалі ў ваду і звязвалі адно да другога гужвай. Гужва — гэта скручаныя ствалы тонкіх бярозак ці лазы. Усё гэта было таксама падрыхтавана. Вязалі ў так званыя грабёнкі — бервяно да бервяна шырынёй 2,5—3 метры. Улічвалася шырыня Агінскага канала, каб з сустрэчным параходам можна было размінуцца.

Сцяпан Арцёмавіч расказаў і пра плытавы тормаз, якім карысталіся сплаўшчыкі. У самым канцы ў плыце (а ён быў даўжынёй 50—70 м) рабілі адтуліну. Вакол яе моцна ўвязвалі гужву. У якасці тормаза выкарыстоўвалі завостранае з аднаго боку бервяно таўшчынёй 15—20 сантыметраў і даўжынёй не менш трох метраў. У тую адтуліну (яе называлі "гняздом") з сілай устаўлялі "гостры штых", які "ўпіваўся" ў мяккую зямлю дна канала, і плыт спыняўся ад такога тармажэння.

— Восенню 1940 года, — адзначыў Сцяпан Арцёмавіч Філіновіч, — мы не змаглі правесці свой плыт праз Выганашчанскае возера. Яно абмялела да таго, што бярвенні ляжалі проста на муле, а доўгімі жэрдкамі, што адпіхалі плыт, цвёрдай зямлі не даставалі. Таму ўвесь плыт з цяжкасцю ўцягнулі ў канал, дзе яму прыйшлося зімаваць...

**9.**

Гаўрыла Карнеевіч Лукашэвіч родам з вёскі Выганашчы. Бацькава сям'я, вярнуўшыся з бежанцаў, пасялілася ў нямецкіх бункерах ля канала, бо іх вёску спалілі немцы. Да прызыву ў польскую армію працаваў на паравым кафары. Гэта спецыяльная машына, з дапамогай якой забівалі сваі ля берагоў канала.

— Работай па ўмацаванні берагоў канала кіраваў інжынер Бараноўскі, — кажа Гаўрыла Карнеевіч. — Высокі, моцны мужык. Выдатны спецыяліст, талковы. Добры па характару. Два гады працаваў я на канале. Зарабляў за рабочы дзень тры злотыя. За іх тады мог купіць паўтара пуда хлеба або два кілаграмы сала...

Агінскі канал эксплуатаваўся і пасля верасня 1939 года, калі Заходняя Беларусь была далучана да БССР. Праўда, не так інтэнсіўна, як раней, але ж дзейнічаў, быў суднаходным да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. У першыя месяцы ваеннага ліхалецця толькі ля Целяхан былі спалены два параходы, патоплены баржы, што стаялі на канале. Немцаў, якія неўзабаве паявіліся ў Целяханах, Лагішыне, іншых населеных пунктах паблізу Агінскага канала, мала цікавіла гэтая водная магістраль. Яны не займаліся ніякай гаспадарчай дзейнасцю, звязанай з каналам. Аднак месцамі на канале былі апорныя пункты абароны ў тых жа шэрых бункерах, пабудаваных яшчэ ў першую сусветную вайну. Прызначаны былі для барацьбы з мясцовымі партызанамі.



*Лявон Пятровіч Паліўка, жыхар вёскі Моталь Іванаўскага раёна.*



*Сцяпан Арцёмавіч Філіновіч, жыхар вёскі Моталь Іванаўскага раёна.*

**IV. АГІНСКІ БОЙ**

**1.**

Як ні дзіўна, у час Вялікай Айчыннай вайны Агінскі канал зноў апынуўся ў цэнтры ваенных падзей. Вялі тут баі партызаны атрада імя Шчорса, брыгады імя Гуляева. Але самым упартым, жорсткім і крывавым быў бой на дзесятым шлюзе канала. Ён увайшоў у гісторыю і называецца ва ўсіх крыніцах як Агінскі бой.

Камандзір партызанскага атрада імя Шчорса Павел Васільевіч Пранягін (удзельнік гэтага бою), а затым начальнік штаба Брэсцкага партызанскага злучэння, падрабязна апісаў тыя падзеі ў сваёй кнізе "У самой границы", якая выйшла яшчэ ў 1979 годзе.

Чаму іменна атрад імя Шчорса апынуўся на Агінскім канале?

Гэтаму папярэднічалі важныя падзеі. Вясной 1942 года пачалося масавае разгортванне партызанскага руху на Брэстчыне. У Буленскім, Гута-Міхалінскім і Воўча-Норскім лясах узніклі спярша партызанскія групы, а потым і атрады.

Першай сур'ёзнай баявой аперацыяй стаў разгром нямецкага гарнізона ў Косаве. Гэта адбылося 1 жніўня 1942 года.

Пасля пасяховай аперацыі ў Косаве ў партызаны ішло новае папаўненне — людзі паверылі, што лясныя салдаты таксама вялікая сіла. Ужо ў сярэдзіне жніўня ў атрадзе імя Шчорса налічвалася звыш 700 узброеных байцоў. Ад такой колькасці партызан (а тут знаходзіліся яшчэ і іншыя атрады) стала цеснавата ў Воўча-Норскім лесе. Гэта першая прычына. А другая заключалася ў тым, што гітлераўцы пачалі карную аперацыю пад назвай "Балотная ліхаманка" і трэба было неадкладна разгрупавацца. Прымаецца рашэнне: ісці шчорсаўцам праз зону блакады ў Пінскую вобласць баявым рэйдам, кіруючыся да Выганашчанскага возера.

*Святаслаў КАЖАДУБ.*

*(Працяг будзе).*

● ТАЛЕНТЫ СЯРОД НАС

## Народныя майстры — народным дэпутатам

***15 чэрвеня ў Івацэвіцкім ГДК падчас адкрыцця сесіі райсавета працавалі выставы, дзе свае вырабы прадэманстравалі народныя майстры і ўмельцы Івацэвіччыны.***

***Расказвае Валянціна КУЛЕЦКАЯ, намеснік дырэктара Івацэвіцкага ГДК:***

— Напэўна, ні пра што мне так прыемна і радасна гаварыць, як пра нашых умельцаў. Бо, здаецца, больш нідзе няма такіх апантаных сваім захапленнем, такіх прафесійна падкаваных майстроў, як у нас.

Вось, калі ласка, палюбуйцеся карцінамі Аляксандра Пукалы — дырэктара ДБПМК-34 (здымак унізе). Я проста ганаруся, што мы змаглі знайсці, калі дазволіце, "адкапалі" такога цудоўнага майстра. Бо пры яго таленце, здольнасцях так многа ў яго сціпласці, добрай выхаванасці. Не любіць гаварыць многа пра сябе, пра свае схільнасці, але ж вы паглядзіце — якія цудоўныя карціны!

А вось выстава кветак Святланы Тарасюк. З высушаных кветак, з сухастою, проста з нічога створаны цудоўныя экспазіцыі. Не маючы адпаведнай адукацыі, Святлана Дзмітрыеўна ставарае свае аранжыроўкі і па еўрапейскай методыцы (з гамай насычаных колераў), і па японскай, так званай ікібана (з нечаканымі вычурнымі лініямі).

Асабліва прыемна прадставіць выставу Марыі Мароз. Якія каларытныя яе касцюмы, ручнікі! Дарэчы, у касцюмах яе работы выступаюць і артысты нашага ГДК. Як можна не захапляцца яе творчасцю! А вось ручнік Ніны Тысевіч з Аброва. Узор на ім Ніна Мікалаеўна вышывала 40 дзён пасля таго, як памерла яе ўнучка. Гэты выраб асабліва ўражвае наведвальнікаў (здымак уверсе). Прыемна што супрацоўнічаюць з намі супрацоўнікі музея імя М. Гойшыка. Ім, як бачыце, таксама ёсць што прадэманстраваць.

***Запісаў Аляксандр МІХАЛЕНКА.***
***Фота аўтара.***





● ПО СЛЕДАМ НАШИХ ВЫСТУПЛЕНИЙ

## "Вернуть детям улыбку"

Так называлась статья, опубликованная в нашей газете в апреле этого года. Речь в ней шла о том, что ежегодно во время летних каникул около 30 детей остаются в Телеханской школе-интернате. Это в своем большинстве дети-сироты и те учащиеся, которых по разным причинам отказываются брать на лето родители. Такие дети могли бы и летом жить в школе-интернате, если бы не одно "но". Дело в том, что на летние каникулы (июнь—август), как на зимние и весенние, школе-интернату на содержание детей государство не выделяет ни гроша. Поэтому в газетной статье высказана просьба к жителям районов, где распространяется "Газета для вас", взять на время каникул мальчика или девочку.

Как сообщила редакции заместитель директора по учебно-воспитательной работе Телеханской школы-интерната Л. Н. Валуева, сейчас у них нет так называемых отказных детей. Все 29 школьников взяты в семьи. Словом, жители не остались равнодушны к просьбе педагогов.

Так, жительница Телехан пенсионерка Мария Афанасьевна Поперецкая взяла на лето двое детей. Учительница Телеханской СШ Наталья Фёдоровна Лазарь — столько же. Преподаватель истории Стайковской средней школы (Ивацевичский район) Мария Александровна Воробей привезла в свою семью двое учеников (7 и 8 классы).

Дирекция Телеханской школы-интерната искренне благодарит всех жителей, которые откликнулись на просьбу педагогического коллектива.

●ЗНАК БЕДЫ

# "ПРОЩАЙ! ТВОЙ БЫВШИЙ И, НАДЕЮСЬ, ЛЮБИМЫЙ МУЖ..."

Четыре года назад эта супружеская пара развелась. Обычное для нынешних времен событие, о нем никто и не вспомнил бы, если бы не продолжение событий. Бывший супруг, увы, любил бывшую жену, она ему взаимностью не отвечала, о чем красноречиво свидетельствовал развод и наличие другого мужчины.

***"Я не хочу сказать, что это ты довела меня до этого, но не могу себе представить, как моя дочь будет называть твоего Витю папой.***

***Умереть хочу трезвым, чтоб не подумали, что допился до чертиков и повесился.***

***Прощай! Твой бывший и, надеюсь, любимый муж".***

Это была предсмертная записка 30-летнего Ивана, покончившего жизнь самоубийством. Бывшая жена обнаружила его в петле, вернувшись из больницы. Утро 4 мая 2000 года было последним в жизни Ивана.

— Мы развелись 4 года назад, уже тогда он пытался покончить с собой, вскрывал вены, — вспоминает Тамара. — И после этого повторял попытки суицида, но его спасали.

На этот раз не успели...

Смерть из-за любви.

Саше было 20, он учился на физическом факультете БГУ. В отличниках не ходил, звезд с неба не хватал, но парнем был неглупым, доброжелательным. В группе его любили именно за последнее качество. Ни врагов, ни долгов не имел. Все было гораздо проще, и в тоже время настолько сложно для восприятия, что в голове не укладывается и по сей день.

17 января этого года его нашли повешенным в сарае собственного дома. Днем ранее Саша не сдал экзамен по ядерной физике. Приехал домой. Видимо, по роковому стечению обстоятельств дома никого не оказалось: отец на работе, мать в гостях у старшего сына в Минске. Неужели "неуд" толкнул молодого здорового умного парня в петлю?

Смерть из-за науки?

В семье Анны Сергеевны всегда все было благополучно: хороший, спокойный муж и такие же дети. В ночь с 8 на 9 мая ее не стало. И не коварная болезнь, не несчастный случай и тем более, не убийство унесли жизнь этой хоть и не молодой, но и не старой еще женщины — ей немногим за 60. Казалось, живи и как можешь радуйся жизни. Но радостито как раз и не было. Донимали хвори, и Анна Сергеевна не раз говорила соседям и знакомым, что жить ей совсем и не хочется. Мужу рядом с ней было еще сложнее. Он все время был на стреме, особенно с тех пор, как она еще в марте решила утопиться в ванной. Наполнила ее водой и прямо в халате забралась туда. Супруг завидя все это сразу понял, что дело не в желании купаться, тем более, что еще раньше он перехватил у нее прощальную записку и нашел белье, приготовленное для погребения. Он берег ее, как мог. В ту предпраздничную ночь, в половине первого им обоим не спалось. И когда он вышел на кухню попить чая, вдруг хлопнула балконная дверь. Мало ли что, вышла подышать, — мелькнуло у него в голове сначала, но очень скоро пришла и другая мысль. Она оказалась единственно верной. Анна Сергеевна шагнула с балкона четвертого этажа навстречу своему избавлению, которого искала с начала этого года.

Смерть из-за болезни...

Самоубийства сегодня вошли в моду, стали обыденным явлением настолько, что мы перестали удивляться и замечать. Просто отмахиваемся: дурак (дура). Да, проблем у общества хватает и без висельников и утопленников: экономика на краю гибели, экология кричит о глобальном бедствии, радиация ежедневно дает о себе знать, травы, в конце концов, до последнего времени не росли, а мы тут со своими самоубийцами. Пойдите к любому чиновнику и скажите ему, что на государственном уровне пора поднимать проблему самоубийств. В лучшем случае от вас вежливо отмахнуться. А ведь пора, действительно пора собраться всем миром и что-то придумать: службы и телефоны доверия, центры психологической разгрузки, психологи и психотерапевты — где все это? Почему церковь уходит от решения этой проблемы, а не предлагает свои услуги? История ведь знает примеры, когда исповедь спасала жизни.

Слышу, как кто-то злобный нашептывает, что и для нормальных людей денег не хватает, а тут еще на идиотов траться. Хотя, если задуматься, то кто из нас больший идиот: тот, кто знает, что жена ему изменяет и спокойно живет дальше или тот, что пытается найти выход из тупика. Выход есть всегда, просто некоторые ищут его не там, где надо искать. Эти некоторые — добрые и мягкие люди, не умеющие в своей жизни противостоять трудностям, не умеющие смотреть на них с оптимизмом. Не зря же говорят, что любая произошедшая неприятность сегодня кажется трагедией, завтра — драмой, а послезавтра — комедией.

Психологи утверждают, что далеко не все с нами случающееся, зависит от нас. Есть люди, на которых очень сильно влияют природные силы, таже Луна. Считается, что именно в полнолуние висельники активизируются.

Нельзя не упомянуть и еще об одном очень важном факторе, который активизирует самоубийц как никакая Луна — алкоголь. Ведь самое большое количество попыток суицида случается именно под воздействием спиртного.

"Я уже зашел в тупик, так что извини, все". Написал жене, находящийся в больнице Иван Иванович. Он своим воспаленным от алкоголя мозгом понял, что дальше и больше пить он уже не может. Но как жить без бутылки он тоже не знал. Потому что только она одна и была ему нужна, только с ней он дружил. Иван Иванович был человеком замкнутым, дружбы ни с кем не водил, пил в одиночку, причем, пил сильно.

28 марта он выпил в последний раз.

Смерть не от алкоголя, а из-за алкоголя.

Петр Петрович тоже крепко дружил с бутылкой. Последние три дня его вообще не было дома, а как появился, его вдруг прорвало, стал просить у жены прощения, обещал больше не пить. И в ту же ночь в туалете повесился.

Смерть из-за нее, из-за бутылки.

Эдуард Владимирович тоже сломался под тяжестью бутылки. Он сожительствовал с женщиной 28 лет и когда та умерла, он вдруг понял, что идти ему некуда и никому он не нужен. Стал проситься у дочери сожительницы, чтоб она не выгоняла его. Дочь была женщиной, хлебнувшей немало горя, у самой сын — инвалид 1 группы повесился. Пожалела она человека, оставила. Тот пил, лечился, лечился, пил. А как-то сказал своей хозяйке:

— Я нашел себе квартиру. На небесах.

И в тот же день повесился. Повесился в том же сарае, где несколько лет назад повесился сын дочери сожительницы.

Смерть из-за водки.

Есть в белорусском языке такое расхожее с ироничным оттенком выражение: "агульная млявасць і абыякавасць да жыцця". Видимо, эти два обстоятельства и толкают в петлю людей. Жить не хочется... К этому страшному выводу приходят многие. В свое оправдание приводят аргументы, подтверждающие сложность бытия. Да, время нелегкое. Но вспомните войну — блокаду Ленинграда, например, тогда вам станет ясно, что все ваши проблемы — просто пыль. С ними можно жить долго и счастливо. Не так ли?



***Михал КВАШНИН, заместитель прокурора города, Галина СТРОЦКАЯ.***
***г. Барановичи.***

